# Пэпээсы ў апазыцыі.

Бедным пэпээсам, якія гвалтам загнаны тварцом „маёвага перавароту“ ў апазыцыю, да якой яны ня маюць ані тэмпэрамэнту, ані ахвоты, — прыходзіцца быць пад абстрэлам з трох бакоў: правіцы, урадавых „радыкалаў“ і запраўднай лявіцы. І вось, круцячыся на ўсе бакі, яны робяць вельмі цікаўныя рэвэляцыі.

Трэба аднак-жа прызнаць, што апазыцыйны тон органу ППС усё больш завастраецца, што, судзячы паводле вострых нападаў з боку ўрадавай „бутэрброднай“ прэсы, неяк дражніць паноў міністраў, а перадусім мо‘— іх галаву...

Трэба прызнаць і тое, што, завастраючыся, пэпэсаўская апазыцыя высоўвае дзеля палемікі з урадам — замест дагэтуль выступаўшых дэлікатна-тэорэтычных круцялёў, як п. Недзялковскі і інш.,—значна шчырэйшых ды паважнейшых павадыроў, якія, б‘ючы, запраўды-ж маюць мэтай біць, але не „рабіць уражаньне барацьбы“, як гэта дагэтуль рабілася ППС. Бяда толькі, што ад удараў па ўраду ды па яго павадыру самой ППС часам няменш баліць, як першым. Але такі ўжо лёс і натура пэпэсаў, якія больш зьвязаны з тымі, каго яны „б‘юць“, чым з тымі, ад імя каго яны робяць апазыцыю...

У адным з апошнім нумароў „Роботніка“ надрукаваны арт. пасла Прагера,—аднаго з шчырэйшых пэпэсаў. Артыкул ядавіта кажа, што—„так званыя (!!) дзяржаўнікі (мэнжове стану) вельмі часта маюць кароткую памяць“, дык аўтар хоча прыпомніць... марш. Пілсудскаму, каму і чаму абязан ён сваей бліскучай перамогай 12—14 траўня 1926 г. ў Варшаве... Мімаходам аўтар робіць такія пікантныя рэвэляцыі ў галіне, так сказаць, „псыхікі маёвага перавароту“, якія запраўды-ж быццам новым сьвятлом асьвятляюць падзеі, згрупаваныя навакол гэтых „гістарычных“ дзён траўня леташняга году!

Перадусім аўтар сцьвярджае, што „стварэньне вітасавага ўраду зусім ня было тады неабходным—з пагляду парляманцкай сітуацыі“... Наадварот: соймавыя партыі, не выключаючы правіцы, рабілі ўсе высілкі, каб стварыць пазапарляманцкі ўрад — пасьля таго, як не ўдалася спроба Скшыньскага. Навет правіца неяк баялася паўтарыць спробу ўзнаўленьня „Хіена-Пяста“, чуючы, што гэта значыла-б правакаваць масы... І запраўды-ж, была зроблена спроба новага „фаховага ўраду“—пад старшыствам Улад. Грабскага, які і атрымаў ад Прэзыдэнта назначэньне прэм‘ерам. Але, відаць, камусьці йшло аб тое, каб—так ці інакш — дайшло ўсё-ж такі да вітасавага ўраду... Паслухайце-ж: цікаўна!.

„Місія Грабскага не ўдалася толькі дзеля таго, што маршалак Пілсудскі ня прыняў запрапанаванага яму партфэлю ваеннага міністэрства. Але і іншыя генаралы, якія атрымалі пасьля яго тую-ж прапазыцыю, заявілі, што яны маглі-б прыняць яе толькі па загаду марш. Пілсудскага. Гэтыя адмовы пахавалі апошнюю спробу стварэньня непарляманцкага ўраду, і **гэткім толькі спосабам адчынены быў шлях да ўлады п. Вітасу**“...

Трэба памятаць, што правіца з пястоўцамі мела значную большасьць у Сойме, дык магла ў кожны мамэнт узяць уладу, аднакжа не рабіла гэтага ў працягу некалькіх гадоў—пасьля спробы ў 1923 г. Дык разумееце цяпер, чытачы, што ўрад Вітаса якраз і быў „выдуманы таму, што яго ня было“...

Паслухайце ж далей.

„**Аружны замах проці ўраду Грабскага быў немысьлімы.** Дзеля таго, каб замах меў шансы пасьпеху, трэба было, каб улада апынулася ў руках чалавека, якога адно толькі прозьвішча зьяўлялася ўжо правакацыяй шырокіх масаў народу. Дык ня будзе недарэчным, калі я скажу,—кажа аўтар, — што ўрад Вітаса быў хутчэй пажаданы для тых, хто даканаў замаху, бо-ж ён стварыў найвыгаднейшую пазіцыю для замахоўцаў, даючы побач з тым апраўданьне замаху“.

Цікаўна толькі, ці паны пэпэсы толькі цяпер дагадаліся аб усей гэтай тонкай згары абдуманай ігры спраўцаў замаху, ці ведалі аб усім гэтым у свой час? Аб гэтым, ведама-ж, ня піша нічога п. Прагер.

Але спрытна створаную згары „выгадную абстаноўку замаху“ трэба-ж было яшчэ выкарыстаць на дзеле. І тут мяркаваньні пэпэсаўскага гісторыка замаху 12 траўня—ня менш цікаўныя.

У рашучы мамэнт, калі марш. Пілсудскі пераходзіў цераз масты праз Віслу, яго ваенныя сілы ня былі большыя за ўрадавыя. **Перамогу яго рашыла работніцкая Варшава. Яна ня толькі дапусьціла ўваход Пілсудскага ў места, але і чынна дапамагла яму ў барацьбе.** Бо-ж тыя пара тысячаў войска Пілсудскага, без артылерыі ды іншых рэчаў ваеннай тэхнікі нічога не зрабілі-б з мільённым местам, калі б яго насяленьне было проці замаху. „Ці-ж можна дапусьціць, напрыклад, што такая-ж слабая вайсковая група — на чале з Довбор-Мусьніцкім ці інш.—пад лёзунгам абвяшчэньня манархіі—здолела-б заняць Варшаву без апору работніцкіх масаў“?! Ясна, што не. Такая спроба скончылася-б у Варшаве таксама, як скончыўся замах Каппа ў Бэрліне.

Каб бясспрэчна даказаць гэта, пэпэсаўскі аўтар цытуе ведамую вострую брашуру эндэцкага генарала Гальлера аб „Варшаўскіх здарэньнях 12 — 15 траўня“, у якой роля „таўпы“ ў барацьбе з урадавымі войскамі высьветлена вельмі ярка.

Гутарка марш. Пілсудскага — уначы 13 траўня—з павадыром чыгуншчыкаў п. Курыловічам (якога толькі-што выгнаў з свайго габінэту мін. камунікацыі п. Ромоцкі!), вырашыла справу агульнай забастоўкі чыгуншчыкаў — на шкоду Вітаса ды на карысьць марш. Пілсудскага. „Работніцкая кляса,—кажа аўтар,—памагла замаху, як барацьбе проці рэакцыі паграждаўшай Рэспубліцы“. Маса верыла, што барацьба гэтая пачата дзеля абароны яе права на жыцьцё, але ня дзеля ўгрунтаваньня падставаў дыктатуры „ў Польшчы“. І вось, гэтая вера, гэтае даверые ашуканы цяпер.

---

Так пішуць цяпер гісторыю паны пэпээсы, больш шчырыя ды праўдзівыя...

Ня будзем прыпамінаць, што пісалі „гісторыкі-пэпэсы“ **зараз-жа пасьля перавароту**,—напрыклад, пас. Дашыньскі ў сваім „гімне **марш. Пілсудскаму**“. Паглядзім так нахутка, што пісаў той-жа Дашыньскі—ужо ў часе „чэснай, паступовай і адкрытай апазіцыі ППС“ — у сваей брашурцы, выданай у першыя ўгодкі „маёвага перавароту“.

Гэты галоўны (побач з Пілсудскім) павадыр ППС, які лічыцца „найразумнейшым з усіх пэпэсаў“, пісаў у свай брашурцы, што пераварот Пілсускага быў скіраваны... **проці мілітарызму**, які ўжо вось-вось хацелі ўвясьці ў Польшчы Гломбіньскія ды Вітасы — побач з генараламі Гальлерам, Рашэўскім, Шэптыцкім, Загорскім, Мусьніцкім ды інш. А гэтыя генаралы, праўда, гатовы былі слухацца парляманту Гломбіньскага ды Вітаса, але—„ніколі не забываючы аб вечным лятуценьні жаўнершчыны („салдатэскі“) аб вайсковай змове проці дэмакратыі“.

Толькі-што выданая адозва ППС „да працуючага люду ў Польшчы“ якраз крычыць аб тым, што „**дэмакратыя—у небясьпецы**“! Яна заклікае народ да ратаваньня правоў і сацыяльных здабычаў масаў. Але, здаецца, усе пералічаныя п. Дашыньскім генаралы ўняшкоджаны больш году таму. Ці, можа, у Польшчы—аж два мілітарызмы?!

Усяго некалькі месяцаў таму „тав“. Недзялковскі бажыўся на кангрэсе II Інтэрнацыяналу, што ў Польшчы **няма дыктатуры ані фашызму.** А вось, цяпер ягоны калега п. Прагер сцьвярджае, што ня толькі дыктатура ёсьць, але яшчэ і мае „ўфундаваныя падставы“, — сцьвярджаючы заадно, што ў угрунтаваньні гэтых падставаў прымала ўчасьце—відаць, як „найдалей палітычна і сацыяльна бачучая партыя ў Польшчы“,—П.П.С.

Бедныя пэпээсы ніяк не пасьпяваюць „пісаць гісторыю“: здарэньні бягучай часіны ўсьцяж перачырківаюць кожную напісаную імі старонку.

Калі-ж урэшце яны шчыра ды поўнасьцяй скажуць нам усю праўду аб саміх сабе?!

# Асушка Палесься.

Толькі пасьля таго, як камісія Лігі Народаў па камунікацыі і транзыце выпрацавала і перадала польскаму ўраду праект асушэньня Палесься, пачаліся гутаркі і ў польскай прэсе аб асушцы Палесься.

Аграмадныя прасторы Палесься ў межах Польшчы—агулам 1,676,000 гэктараў Палесься,—пакрыты балотамі і дрыгвай. Гэтыя землі калі іх асушыць, будуць найбольш ураджайнай ральлёй.

Польскае прэса ўжо наперад смакуе, якія багатыя і вялікія абшары будуць здабыты **для польскага асадніцтва на „крэсах“**... Ня менш радуецца і абшарніцтва, якое спадзяецца павялічыць даходы з сваіх маёнткаў на Палесьсі пасьля асушкі—ў 3 або навет 6 разоў.

Але на правядзеньне гэтага пляну патрэбна ня больш і ня менш, як... **420 міліёнаў злотых!** Польскія газэты аблічаюць, што гэта дало-бы $1^1/_2$ міліёна дзесяцін. 1 міліён 200 тысяч дзесяцін прыдбанае гэтак зямлі, лічаны па 350 злот. за дзесяціну, ужо аплацілі-бы ўсе кошты і далі б яшчэ **300** тысяч **дзесяцін дарма.**

Як пішуць газэты, дзяржава павінна ўзяць на сябе распрацаваньне агульнага пляну і арганізаваць крэдыт, а работы пакінуць прыватным асобам. Ясна што паны абшарнікі будуць мець у гэтым пяршынства.

Што-ж: добрыя лятуценьні. Ці яны збудуцца?—гэта йшчэ вялікае пытаньне, бо-ж, каб стварыць гэты новы „тэрэн“ для насаджаньня асадніцтва, патрэбны надта вялікія грошы.

# Палажэньне польскае валюты.

Эндэцкая прэса зьмяшчае вельмі цікаўную стацьцю свайго „спэца“ па фінансам, пасла Рымара, аб грознай сытуацыі злотага. Дзеля надзвычайнай вагі, якую мае гэтая справа для Польскай Дзяржавы, падаем скарочаны яе зьмест.

Як ведама, галоўным, амаль не адзіным уласьнікам чужаземнай валюты, які пакрывае запатрабаваньні біржы, зьяўляецца Польскі Банк. Колькі-ж золата і чужаземных валют — гэтай асновы курса златага — мае Польскі Банк?

20-га чэрвеня стан быў наступны: золата — 160,442,000 зл. у золацe; серабра — 914,000 зл. у золацe; чужаземныя валюты, дэвізы і г. д. — 231,858,000 зл. у золацe; разам — 393,214,000 злотых у золацe.

Адняўшы розныя валютныя даўгі, астаецца 362 мільёны ў золацe, каторыя зьяўляюцца падставай для польскай валюты — для тых папяровых злотых, якіх таго-ж самага 20-га чэрвеня было ў абароце 681,675,000 злотых. і для фінансаваньня польскага заграцічнага гандлю. Польскі злоты меў на гэты дзень пакрыцьце па статуту на 55 проц. па курсу на 95 проц.

Гэты стан Польскага Банку раўнуе Рымар з станам, які быў перад пачаткам спадку злотага — у канцы ліпня 1925 году, за Грабскага. Стан тады быў наступны: валют і золата — на 213 мільёнаў злотых у золацe і папяровых злотых у абароце—на 461 мільён.

Пры такім стане і пачаўся спадак.

Грабскі тады разьлічаў на 15 мільёнаў даляраў Дылёнаўскай пазычкі (згодна з падпісанай умовай) і гэтак думаў пратрываць да новага жніва. Не атрымаўшы іх, польскі злоты не дачакаўся новага жніва і пакаціўся. Мала таго: пасьля жніва, ня гледзячы на вельмі актыўны таргові баланс з заграніцай — дзякуючы добраму ўраджаю, злоты каціўся ўніз і далей, бо прыйшлося расплачывацца за пасыўны баланс з папярэдніх месяцаў. Тады вывазілі і аддавалі ў застаў золата, тады ўцёк Грабскі.

Дзьве крыніцы тлумачаць тагачасную паніку 1) дзяржаўны дэфіцыт = 30 да 40 мільёнаў у месяц, 2) польскія купцы павінны былі сплаціць 450 мільёнаў злотых заграніцу (польскія купцы маюць крэдыт на 3 месяцы), а заграніца Польшчы — 150 мільёнаў злотых, гэтыя даўгі, якія прыйшлося плаціць восеньню 1925 і вясной 1926 г., так страшэнна адбіліся на злотым.

Далей раўнуе Рымар тагачасны стан з цяперашнім, бяручы пад увагу прошлы дасьлед.

Запас валют, дэвіз, золата = 362 зл. у золацe. Да гэтага трэба дадаць 15 міл. даляраў кароткасрочнай інтэрвэнцыйнай пазыкі, — гэта знача 78 міл. злот. у золацe. А даўгі? Трэба прыняць пад увагу, што прывезены тавар аплочаны гатоўкай напалову, а другую палову трэба аплаціць праз 100 дзён, (срок, на які звычайна дае гандлёвы крэдыт заграніца). Як тады будзе выглядаць злоты?

Далей таргові дэфіцыт па ўрадовым крыніцам выглядае гэтак: красавік — 29 міл. зл. у зол., травень—50 міл. у зол., чэрвень —46 міл. у зол., ліпень — 20 міл. у зол. Разам 145 міл. зл. у золацe.

Іншыя аплаты заграніцу і выезды людзей за межы—15 міліёнаў у месяц (сэнатар Ротэнштрайх аблічае на 20 міл.). За 6 будучых месяцаў, якія не прынясуць даходаў з заграннічнага гандлю, па гэтаму рахунку прыдзецца даплаціць 90 мільёнаў злотых у золацe. Калі лічыць, што жнівень ня дасьць ужо дыфіцыту ў загран. гандлі, дык з запасу валют прыдзецца заплаціць 70 міл. даўгоў за тавар і 90 міл. па іншых рахунках, разам 160 міліёнаў зл. у золацe. Есьцькжа ў запасе разам з 15 міл. даляраў 450 міл. зл. у золацe. Калі заплаціць па заграннічных рахунках, застанецца 290 міл. зл. у золацe.

Гэтак, у 1925 г. ляжала 213 міл. зл. у золацe ў склепах банку, і ў абароце банкнотаў было на 461 міл. зл.; цяпер-жа будзе 290 міл. зл. у золацe ў банку і ў абароце банкнотаў на суму 681,675,000 злотых.

Далей пытаецца Рымар: а што, калі таварныя даўгі вялікшыя, як я аблічаю? А што, калі і жнівень прынясе таргові дэфіцыт? А калі амэрыканцы не прадоўжаць тэрміну аплаты 15 міл. даляр. пазычкі? Ці-ж бы не аказаўся польскі злоты з меншым забясьпечаньнем, чым у 1925 г., калі-б хоць на адно з гэтых пытаньняў жыцьцё дало-б непамысны адказ.

Хто адкажа на гэта, — кажа далей Рымар,—што і тады ўсё добра будзе,—той хай сьпіць спакойна і паддзержывае палітыку сучаснага ўраду...

Ад сябе дадамо, што доўга адказу жыцьця на гэтыя пытаньні чакаць ня прыйдзецца.

---

*Ал. Васіленя.*

# Практычныя парады
## да пастаноўкі спэктакляў на вёсцы.

Ні для кога не зьяўляецца сакрэтам, што беларускае насяленьне Польскае Рэспублікі пазбаўлена магчымасьці мець сваю родную школу і гэткім чынам чуць родную мову па-за сваей будзённай гутаркай аб штодзённым хлебе. Як культурнае, гэтак і грамадзкае жыцьцё Зах. Беларусі наагул заціскаецца ў межы сьляпой паслухмянасьці распараджэньням адміністрацыі, якая, ня будзем закрывацца, далёка не жадае разьвіцьця беларускае культуры, каб не сказаць больш, астаючыся ў рамках артыкулу выключна аб справах культуры...

Але збуджаная і ўстрывожаная энэргія народу ня можа, падобна лаве Вэзувія, застываць на месцы да поўнага акамяненьня. Яна, як цячэньне бурлівае рэчкі, задзержанае непраходнаю грэбляю без заставак і спускаў,—знаходзіць сама іншы выхад на шырокія прасторы, аж пакуль створаная штучна грэбля, калі не разваліцца ад напору на яе, то ўрэшце стане непатрэбнай ні для каго.

Аднэй з яскравых праяваў незаглохшай народнай энэргіі зьяўляецца хваля спэктакляў на вёсках усяго абшару Заходняй Беларусі. Народ усёю сваёю масаю імкнецца да будаваньня сваей роднай культуры— хоць у тых вузкіх рамках, якія пастаўлены яму „воляю лёсу“.

Рэдакцыя, ідучы на спатканьне гэтаму імкненьню народных гушчаў, зьмяшчае ніжэйпаданыя „Парады“ грам. Васілені, якія шмат у чым могуць дапамагчы тым сейбітам народнае культуры, якія толькі распачынаюць гэтую справу. (*Рэд.*).

### УСТУП.

Пішучы, як брацца за праду і вясьці працу пастаноўкі спэктакляў на вёсцы, маецца на ўвазе толькі праца, якая вядзецца ў тых вёсках, дзе слабыя артыстычныя сілы, дзе аматары слаба знаёмыя з гэтаю працаю і наагул мала знаёмы з тэатрам. Пры гэтым лічыцца за аксіому, што праца вядзецца пры цяжкіх матэрыяльных абствінах, калі сцэна і дэкарацыя бедная, а калі яе часта і зусім няма, калі аматары карыстаюцца самымі прымітыўнымі спосабамі пры збудаваньні дэкарацыі, ужываючы дзеля гэтага радзюшкі, пасьцілкі, просьцыні і г. д., замест грыму, карыстаюцца сажаю, крэйдаю, воўнаю, лёнам і г. д.

Не ўдаючыся ў падрабязны разбор важнасьці справы, як таксама, не паказваючы справы пастаноўкі спэктакляў, як кажуць, „па ўсіх правілах тэхнікі“ — што расьцягнула-бы нашы „Парады“ і магчыма мала чаго дадало-б да карысьці справы, што лічым галаўнейшым заданьнем, — проста перайдзём да самых практычных указаньняў.

Наперадзе ня лічым лішнім падкрэсьліць, што асоба, якая бярэцца за пастаноўку спэктаклю (рэжысэр), павінен перш-на-перш падумаць аб тым, ці тая п‘еса, якую ён хоча паставіць, будзе суадказваць сучаснаму настрою і эстэтычнаму пачуцьцю глядзельнікаў, каб пастаўленая п‘еса, ці то які канцэрт (музыка, сьпевы дэклямацыя і г. д.) зрабілі добрае і патрэбнае ўражаньне, каб зацікавіла і заахвоціла глядзельнікаў.

Потым трэба падбіраць такую п‘есу для пастаноўкі, якая пры гэтым будзе мала вымагаць матар‘яльных засобаў, гэта значыць— патрэбнае дэкарацыі, адпаведнае вопраткі і рэквізыту, якія можна лёгка дастаць, або зрабіць самому; каб ролі ня былі цяжкія, а самае галоўнае, каб гэтым ролі падыходзілі да тых асоб, якія маюцца выконваць іх. Адным словам трэба зважыць і параўняць гатоўку ўласных сілаў і ўмоваў у зьвязку з вымаганьнямі п‘есы. Калі ўсе гэныя варункі ня будуць прыняты пад увагу, дык спэктакль можа ня мець пажаданага пасьпеху.

Дык перойдзем да самых практычных указаньняў.

Спачатку мы пярагаворам аб тых асобах, якія патрэбны пры пастаноўцы спэктаклю, а за тым пагаворым аб самай пастаноўцы.

Пры пастаноўцы аматарскага спэктаклю патрэбны наступныя асобы: 1) рэжысэр, 2) артысты, 3) суфлёр, 4) рэквізытар, 5) сцэнарыюс і іншая абслуга. Вось-жа разборам іх роляў пры пастаноўы мы і займёмся.

### Рэжысэр.

Галоўным кіраўніком усей пастаноўкі спэктаклю — зьяўляецца рэжысэр. Ен укладае парадак усяго спэктаклю, выбірае п‘есы, дзеліць ролі і абавязкі, вызначае рэпэтыцыі, кіруе імі, вучыць і паказвае, як трэба выконваць ролі, дбае аб наладжаньні патрэбнай дэкарацыі, дастасаваньня вопраткі для дзеючых асобаў, распараджаецца і ўказвае пры грыміроўцы. Адным словам, усе дэталі пастаноўкі ляжаць на ім. Наагул ад здольнасьці і знаньня сваe справы і абавязкаў рэжысэра залежыць вынік усей пастаноўкі спэктаклю. Дзеля гэтага пажадана, каб рэжысэр у вясковых драматычных арганізацыях быў чалавекам больш-менш здольным, знаёмым з справамі тэатральнымі, а галоўнае, шчыра і любоўна аднасіўся да арганізацыі аматарскіх спэктакляў.

### Артысты-аматар

бярэ на сябе выкананьне роляў, добра вывучвае і пазнае ролю, якую ён мае выканаць. Кожны артысты-аматар павінен шчыра і любоўна аднасіцца да сваіх абавязкаў. Толькі вялікае замілаваньне і здольнасьць артыстых-аматараў падыме на належную вышыню справу аматарскіх спэктакляў.

### Суфлёр.

Суфлёр павінен умець чытаць ціха і выразна, каб словы, якія ён падае з будкі, чуваць былі толькі на сцэне. Ня кожны можа быць суфлёрам. Для гэтага таксама павінна быць асаблівая здольнасьць і ўмеласьць. Суфлёр падае толькі самыя словы (рэпліку), але-ж у выпадку, калі ён бачыць, што дзеючая асоба на сцэне ня тое робіць, або ня туды ідзе, як гэта трэба, або ня ведае, што рабіць, дык суфлёр павінен памагчы артысту, сказаць яму, паправіць і г. д.

### Рэквізытар

дастае, зьбірае і прыгатоўвае патрэбныя рэчы для спэктаклю (напрыклад: кніжкі, гаспадарскія прылады, судзьдзе, пасьцель і г. д.), якія фігуруюць на сцэне ў часе дзеі і прыносіць іх не пазьней, як на гэнаральную рэпэтыцыю. Пасьля аканчаньня спэктаклю забірае іх назад. Рэчы гэтыя называюцца—рэквізытам.

### Сцэнарыюс.

У часе спэктаклю сцэнарыюс абавязаны пільнаваць, калі адчыняць і зачыняць заслону; ўчас выпушчаць на сцэну дзеючых асобаў, глядзець, калі і чый выхад; кіраваць усякімі гукамі, шумам, звонам, крокамі, гутаркай, сьпевамі, стукамі і г. д. за сцэнай; наагул павінен ведаць і кіраваць усім тым, што робіцца за сцэнай у часе ходу дзеяў. Трэба моцна пільнаваць, каб усё гэта было зроблена, ні раней, ні пазьней, якраз тады, калі трэба. Дзеля гэтага сцэнарыюс павінен усе патрэбныя выпадкі мець выпісаным і ў часе рэпэтыцыяў практыкавацца.

Цяпер пяройдзем да самае пастаноўкі.

